АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

19 - 25 ЧЭРВЕНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ
№25 (165)

МАЛАДЗЕЧНА

## Маладзечна патанае





З-за ліўняў і граду, якія абрынуліся ў канцы мінулага тыдня на Беларусь, пацярпелі многія населеныя пункты рэспублікі. Асабліва ў Брэсцкай і Мінскай абласцях. Толькі ў сталічнай вобласці былі пашкоджаны 67 жылых дамоў і 82 вытворчыя памяшканні. На плошчы амаль у 5 тысяч гектараў пацярпелі пасевы. Суткі былі адключаны ад электразабеспячэння 30 населеных пунктаў і 90 фермаў і комплексаў.

*Не абышла стыхія і наш рэгіён. На здымках: двары дамоў у Маладзечне па Вялікім Гасцінцы.*

*Аддзел інфармацыі.*

ФОТА ІГАРА ВОЙТКІ.

МІНСК

## Суайчыннікам - радыё

Нашы суайчыннікі ў Расіі з 15 чэрвеня маюць магчымасць па 6 гадзін штодня слухаць перадачы беларускага радыё. Ад Смаленска да Урала, на сярэдніх і кароткіх хвалях.

*Мікола ЛІННІК.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Інвалідам - шпіталь

Прынята рашэнне аб узвядзенні на Маладзечаншчыне рэспубліканскага шпіталя для інвалідаў з парушэннямі апорна-рухальнага апарата. Будзе ён называцца «Вяжуці», бо размесціцца ла аднайменнай вёскі.

*Мікола ЛІННІК.*

СМАРГОНЬ

## Накірунак на Ашмяны

Доўгі час дарога, што вяла ад горада да філіяла Мінскага трактарнага завода, каля апошняга і заканчвалася. Далей быў тупік ды некалькі крывых лясных дарожак разбягаліся ў розных напрамках – да кожнай вёскі свая сцяжынка.

Неўзабаве прадоўжацца работы па пракладцы гэтай аўтастрады (дарога адносіцца да 5 катэгорыі, якая мае пад увагай 10–метровую шырыню, асфальтавае пакрыццё і шэраг іншых асаблівасцей, уласцівых дарогам з інтэнсіўным рухам).

Накірунак новай трасы – на Ашмяны, праз Дзевятні і Жодзішкі. Ідзе да завяршэння работа над праектам. Калі ён будзе гатовы, кіраўнік ДЭУ–134 **Валерый Кокаш** больш падрабязна раскажа пра маршрут і тэрміны ўвядзення дарогі ў строй.

*Ала СТРАШЫНСКАЯ.*

АСТРАВЕЦ

## Прабіваюць на касе

У крамах "Ивушка" і "Цэнтральны" з'явіліся ў продажы прэзерватывы. Прадаюць іх проста ў касах разам з жуйкамі, пячэннем, цукеркамі.

І хаця, здавалася б, усё зроблена для зручнасці пакупніка, па словах прадаўцоў, попытам гэты тавар асабліва не карыстаецца. За дзень, звычайна, могуць купіць па адной–дзве ўпакоўцы.

*Алесь СВІРЧУКОЎ.*

ВІЛЕЙКА

## 40-гадовы дзядуля

Мінскі завод халадзільнікаў у мэтах рэкламы сваёй прадукцыі паабяцаў сучасны халадзільнік таму, у каго захаваўся ў эксплуатацыі дзядулька той самай маркі, якому 40 гадоў.

Каб такую акцыю па рэкламе тэлевізараў праводзіў «Гарызонт», пашчасціла б **Праскоўі Алфёравай.** Яе «Рэкорду» 44 гады. За ўвес час сур'ёзна не рамантаваўся.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## V Рэспубліканскі фестываль беларускай песні і паэзіі

# Маладзечна-98

## "Сёння ў нашай хаце свята"

*МАЛАДЗЕЧНА. Калі Міхаіл Фінберг, мастацкі кіраўнік V Рэспубліканскага фестывалю песні і паэзіі "Маладзечна–98", галоўнай асаблівасцю сёлетняга фэсту лічыць "жывы гук", г. зн., усе артысты будуць выступаць без фанаграмы, у суправаджэнні аркестра, то старшыня гарвыканкома, ён жа старшыня аргкамітэта, Станіслаў ТАТАРЫНОВІЧ бачыць адрозненне ад папярэдніх у супадзенні трох адметных падзей – самога фестывалю, 610–годдзя горада і дзесяцігадовага юбілею з дня ўстанаўлення партнёрскіх сувязяў з нямецкім горадам Эслінгенам–на–Некары.*



– Свята пачынаецца 18 чэрвеня ўрачыстым сходам і канцэртам у абласным драматычным тэатры, – расказвае далей старшыня гарвыканкома, – а праз дзень на галоўную сцэну выходзяць юныя і дарослыя ўдзельнікі фестывалю. Насычанай будзе праграма двух наступных дзён: тут і выступленні лепшых калектываў горада і раёна, і паэтычныя чытанні, і канцэрты з удзелам "зорак" і "зорачак" беларускай эстрады.

**– Падрыхтоўка да падобнага мерапрыемства, мяркую, патрабуе значных высілкаў?**

– Такое арганізоўваць складана было заўсёды, сёння тым больш – лішніх сродкаў няма. А тут яшчэ патрэбна належным чынам падрыхтаваць горад – які гаспадар пакліча гасцей у непрыбраную хату? Дзякуй Міністэрству культуры, аблвыканкому, гарадскім прадпрыемствам, спонсарам, якія дапамаглі грашыма. Праўда, больш увагі да адзінага ў краіне нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі магло б быць з боку Саўміна, іншых дзяржаўных структур. Усе мы беларусы, жывем на гэтай зямлі.

**– Дарэчы, акрамя артыстаў, хто тыя госці, пра якіх вы толькі што згадвалі?**

– Мы запрасілі на свята сяброў з нямецкага Эслінгена, з польскага Пётркава–Трыбунальскага, таксама горада–партнёра, з расійскай Каломны і ўкраінскага Ірпеня. Гасцей будзе каля 30 чалавек, і яны ўбачаць, які таленавіты беларускі народ, які прыгожы горад Маладзечна.

*Аляксандр ЛАЗОЎСКІ.*

## Праграма фестывалю

***19 чэрвеня (пятніца)***

**19.00 Цэнтральная плошча.** "Спяваем з аркестрам..." Канцэрт пераможцаў 1 фестывалю Беларускай дзіцячай эстраднай песні пры ўдзеле Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь.

**21.45 Урачыстае адкрыццё V Рэспубліканскага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна–98" у суправаджэнні Дзяржаўнага канцэртнага аркестра РБ. Конкурс маладых выканаўцаў.**

"Рэцытал": сольнае віншаванне ўдзельнікам фестывалю саліста Дзяржаўнага канцэртнага аркестра РБ Якава Навуменкі.

***20 чэрвеня (субота)***

**Цэнтральная плошча**

Гарадское свята песні "Люблю цябе, мой горад родны!", прысвечанае **610**–годдзю Маладзечна.

**12.00 – 12.40** Канцэрт творчых калектываў Дома культуры чыгуначнікаў.

**12.40 – 13.00** Канцэрт народнага хору настаўнікаў СШ №7.

**13.00 – 13.20** Канцэрт народнага ансамбля песні і танца "Беларусачка" АТ "Электрамодуль".

**13.20 – 14.10** Выступленне творчых калектываў Маладзечанскага раёна: ансамбля народнай музыкі "Сакавінка", вакальна–інструментальнага ансамбля в. Краснае, народнага ансамбля эстраднай музыкі "Рэзананс" раённага метадычнага цэнтра.

**14.10 – 15.00** Канцэрт творчых калектываў агульнаадукацыйнай школы мастацтваў.

**15.00 – 15.15** Выступленне інструментальнага ансамбля школы духавых інструментаў.

**15.15 – 15.35** Канцэрт фальклорнага ансамбля "Калядкі" музычнага вучылішча.

**15.35 – 16.00** Канцэрт эстраднай студыі ГДК.

**16.00 – 17–00** Канцэрт творчых калектываў дзіцячай музычнай школы.

**19.00 – 20.20** Канцэрт народнага ансамбля песні і танца "Спадчына" гарадскога Дома культуры.

**21.45** "Беларусь не пакіне спяваць!" Канцэрт беларускіх рок–гуртоў і Дзяржаўнага Акадэмічнага народнага хору імя г. Цітовіча.

***21 чэрвеня (нядзеля)***

**Гарадскі парк культуры і адпачынку імя Перамогі**

Паэтычныя чытанні

**12.00 – 13.00** Уладзімір Някляеў "А вершы пішуць – як жывуць...". Канцэрт эстраднай студыі ГДК.

**13.00 – 14.00** Уладзімір Карызна "Ходзіць сонца па маіх шляхах...". Канцэрт народнага ансамбля танца "Магістраль" Дома культуры чыгуначнікаў.

**14.00 – 15.00** Леанід Дранько–Майсюк "Мне шчасце дадзена магчымас...". Канцэрт хору КРЦ ВВА БелТіЗ.

**Гарадскі стадыён.**

Спартыўнае свята, прысвечанае **610**–годдзю Маладзечна.

**12.00** Спартландыя сярод дашкольных дзіцячых устаноў. Паказальныя выступленні лепшых спартсменаў ДЮСШ.

**13.30** Паказальныя выступленні ваеннаслужачых ваенізаванай пажарнай аховы.

Для ўсіх жадаючых – спаборніцтвы па шахматах, пнеўматычнай стральбе, армрэслінгу, падняцці гіры, валейболе.

**Цэнтральная плошча**

**19.00** Канцэрт Дзяржаўнага Акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча.

**21.00** Урачыстае закрыццё фестывалю "Зоркі маёй краіны". Канцэрт гасцей і пераможцаў фестывалю "Маладзечна–**98**" у суправаджэнні Дзяржаўнага канцэртнага аркестра РБ.

ПАДПІСКА - 98

## «РГ» - газета, якая зблiжае

**Заканчваецца падпіска на другое паўгоддзе. Пасцяшайцеся на пошту.**

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА:**
**на месяц- 12 тыс. рублёў;**
**3 месяцы- 36 тысяч;**
**6 месяцаў- 72 тысячы рублёў.**



ФОТАМАДЭЛЬ РЭГІЁНА



*Алёна, 15 год, Мінск. Захапляецца музыкай, танцамі (займаецца ў харэаграфічнай студыі). Не ўяўляе сябе без прыроды, жывёл — мае ката і сабаку.*

ФОТА АЛЯКСЕЯ ФЯЦІСАВА.

СТАРЫ АЛЬБОМ




Смаргонь перад I Сусветнай вайной. Вакзальная алея. У 1873 г. адкрыўся рух па Лібава-Роменскай чыгунцы. У вярсце ад Смаргоні была пабудаваная станцыя. Ад горада да станцыі вяла Вакзальная алея, абсаджаная бярозамі.

Цяпер гэта густазаселеная вуліца Камсамольская. Тых старадаўніх бяроз ужо даўно няма, яны былі знішчаныя ў I Сусветную вайну. Менавіта тут праходзіла лінія руска-нямецкага фронту ў 1915-1917 г.г. Сёння вуліцу ўпрыгожваюць вялікія ліпы, вязы і інш. Самыя старыя з іх былі пасаджаныя пры Польшчы ў пачатку 20-х гадоў.

*Н. МАРКАВА, галоўны захавальнік фондаў Смаргонскага краязнаўчага музея.*

ФОТА З ФОНДАЎ МУЗЕЯ.

КУЛЬТУРА

## Купалаўцы на вілейскай сцэне

**ВІЛЕЙКА**. Днямі госцем вілейчан быў Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы. На сцэне гарадскога Дома культуры разгортваліся падзеі пастаралі па п'есе **Мікалая Манохіна** "Парфен і Аляксандра" (рэжысёр **Валерый Раеўскі**).

## Нас у Мінску прадстаўляюць...

На закрыцці Рэспубліканскага фестывалю "Беларусь – мая песня", што мае адбыцца ў пачатку ліпеня ў Мінску, горад будзе прадстаўляць **Валерый Скаражонак** (як выканаўца песень) і духавы аркестр школы мастацтваў (кіраўнік **Фёдар Гур**).

## Майстэрства ў спадчыну

ВАЛОЖЫН. Да ўдзелу ў абласным свяце "Дрэва жыцця" (Капыль, 20 чэрвеня) запрошаныя бацька і сын **Віктар і Андрэй Язерскія** (рэзчыкі па дрэве). На свяце будуць прадстаўленыя гатовыя вырабы, затым майстры прымуць удзел у конкурснай праграме.

**АШМЯНЫ.** Традыцыйнае свята Купалля (па каталіцкім календары) пройдзе 21 чэрвеня ў в. Супраны.

## "Гліняны звон" над Івянцом

**МАЛАДЗЕЧНА**. На гэты раз штогадовае свята рамёстваў перамясцілася з Любані ў Івянец. Сваіх майстроў 22 чэрвеня прадставіць нядаўна створаны раённы цэнтр рамёстваў.

*Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.*

# Цуд ты мой папяровы

***ВІЛЕЙКА. "У папяровай краіне цудаў" – так называецца незвычайная выстаўка, якая месціцца ў выставачнай зале мясцовага гісторыка–краязнаўчага музея.***

Яе незвычайнасць заключаецца не толькі ў прыгожай назве, але і ў саміх экспанатах, зыходным матэрыяле, якім з'яўляецца папера. Так–так, звычайная рознакаляровая папера, якая ва ўмелых руках набывае самыя разнастайныя формы і спалучэнні ліній. А майстэрства выраблядь з яе цудоўныя рэчы называецца арыгамі, і прыйшло яно з далёкай Японіі.

Арыгамі "прапісалася" у Вілейцы шэсць год таму, дзякуючы ініцыятыве і настойлівасці цяперашняй выкладчыцы гарадскога цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў **Іне Занкавіч**. Спачатку захапілася сама, затым пачала дзяліцца сваім умельствам з іншымі супрацоўнікамі цэнтра, а цяпер шчодра перадае веды школьнікам і выхаванцам дзіцячых садкоў.

Мажліва, розныя там птушачкі ды кветачкі, шары ды папяровыя пано і здольныя выклікаць лёгкую ўсмешку недаўмення – ці варта займацца чужым нам мастацтвам? Але толькі ў чалавека недасведчанага. Займацца арыгамі – перш за ўсё, спасцігаць душу і культуру вялікага народа, самабытнай нацыі, якой з'яўляюцца японцы. Займацца арыгамі – значыць, яшчэ і яшчэ адкрыць для сябе: свет такі цесны ў сваёй неабдымнасці.

Згаданая выстаўка, дарэчы, з'яўляецца лагічным працягам папярэдняй выстаўкі мяккай цацкі, габеленаў і вышыўкі, таксама арганізаванай выкладчыкамі і выхаванцамі цэнтра, якім кіруе выдатны педагог і цудоўны чалавек **Таццяна Захарыч**. У творчых планах цэнтра нямала арыгінальных задум. І верыцца, што яны збудуцца. Тым больш, што ўлады горада актыўна падтрымліваюць падобныя ініцыятывы.

*Віталь ПАШУК.*

ПАЭЗІЯ

# Круціся, лёсу калаўрот!

***МАЛАДЗЕЧНА. Жанчыне пад сілу многае. Але і яна не заўсёды можа суладаць з пачуццямі, нават калі яна асоба творчая, таленавітая, як маладачанка Таіса Трафімава. Якую б тэму ні закранала пяшчотная ліра паэткі, яе душа жыве ў кожным вершы, у кожным радку звіняць яе трапяткія нервы. Аўтар, падаецца, і не хавае наракання на жаночую долю, на свой "пастылы" лёс:***

*Жыццё – тэатр. Крылатая прэм'ера*
*Мне не пакінула святла надзей.*
*Адзіны сябра – чысты ліст паперы –*
*Сцвярджае гэта кожны божы дзень.*

Чатырохрадкоўе ўзятае са зборніка, які нядаўна выйшаў у "Бібліятэцы часопіса "Маладосць". Яго аўтары некалі насілі аднолькавае прозвішча – Янучок, што выдае ў згаданай ужо Таісе Трафімавай і Зоі Падліпскай родных сясцёр. Зрэшты, іх аб'ядноўвае не толькі адна кроў, але і падабенства жыццёвых сцяжын – нялёгкіх, пакручастых. Але, зноў жа, наколькі шчырая жанчына ў пачуццях, настолькі моцная яна ў веры. Таму і назвала Таіса Трафімава сваю частку зборнічка аптымістычна–узнёсла – "Усміхнуся вятрам". І смела падстаўляе свой твар ветру жыцця.

*Перагарую, усё перацярплю,*
*Не папрашу у Бога анічога,*
*Аб міласці адной яго малю:*
*Благаславі на зорную дарогу!*




Хай будзе шчаслівай дарога Таісы Трафімавай – жанчыны і паэткі.

*Алесь ЛАЗОЎСКІ.*

# 22 чэрвеня 1941 года Германія пачала вайну з СССР




57 год таму фашысцкая Германія без абвяшчэння пачала вайну з Савецкім Саюзам. Беларусь стала асноўнай арэнай ваенных дзеянняў, ахвярамі якіх сталі сотні тысячаў мірных жыхароў. Зрэшты, ахвярамі вялікай палітыкі заўсёды застаюцца простыя людзі, як жыхар Брусоў, што на Мядзельшчыне, **Іван Каўрус**. Яго ў юначым узросце (нарадзіўся ў 1929 годзе) вывезлі ў Нямеччыну на прымусовыя работы. Пасведчанне асобы Івана Каўруса - сурагат пашпарта - захаваўся да нашых дзён. **Міхаіл Трафімавіч Чарняўскі**, наш пастаянны аўтар, даў магчымасць «РГ» апублікаваць гэтыя здымкі - сведчанне тых даўніх дзён.

ЗАПРАШАЮЦЬ НАВУЧАЛЬНЫЯ УСТАНОВЫ

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-24.*

## Прабачце, але абгортку я кіну на падлогу!

Натуральна, далёка не ўсе ў замежжы спадабалася. Адно з яркіх антыўражанняў – неахайнасць амерыканцаў.

Сапраўдны шок мы мелі пасля прызямлення ў аэрапорце Кенедзі, што ў Нью–Ёрку. Смецце ў самалёце (скамечаныя газеты, абгорткі, сурвэткі і г. д.) было паўсюль – у праходах, пад крэсламі, на крэслах. Прычым у колькасцях, што можна бачыць хіба толькі на сметніку.

Дарэчы, падчас зваротнай дарогі спадзяваліся на іншае (маўляў, у ЗША лячы амерыканцы, адтуль – ”турысты”, накшталт нас), але чысціня была на тым самым узроўні.

Самотнае відовішча ўяўлялі сабою спартыўныя залы пасля заканчэння баскетбольных матчаў; нават гледачы канцэрта вядомага спевака (нешта накшталт савецка–расійскага Іосіфа Кабзона; публіка была «вышэй за сярэдні ўзровень”) не вызначаліся ў лепшы бок.

Амерыканцы наколькі чыстыя (душ штораніцы – як малітва), настолькі неахайныя. Калі, прыкладам, у краме нейкае адзенне скінулася з плечыкаў, нахінуцца і падняць яго нікому не прыйдзе ў галаву. Наадварот, на сукенку ці куртку могуць наступіць. І не раз.

Нейкім кантрастам гучаць пастаянныя «Thank you» ды абавязковае «Excuse me», калі нехта перасякае напрамак вашага руху.

Наогул, амерыканцы ў Аёве адзін да аднаго вельмі добразычлівыя. Усмешкі, прывітанні нават незнаёмым людзям у краме, проста на вуліцы. Лёгка і проста яны знаёмяцца – могуць на вуліцы адзін аднаму сказаць: «Hi!» ці «Hellow!», паціснуць руку, назваць імя. І пайшла гаворка.

***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***

ДУМКА ЧЫТАЧА

## Смерці!?

Добры дзень, шаноўныя!

Кожны чалавек мае свой погляд на тую або іншую падзею. Вось і я вырашыла выказаць свае думкі наконт здарэння, пра якое паведамляла “Рэгіянальная газета” – “Мы хацелі абчысціць трупы”.

Жах у душы пасяляецца. Да чаго ж мы ідзем? Няўжо надышоў той час, калі людзі павінны жадаць смерці адзін аднаму? А ўвогуле, ці можна назваць людзьмі тых, хто гатовы дзеля нажывы пайсці на ўсё, пераступіць праз жыцці людзей? Жах авалодаў душой не ад учынку дзяўчынак. Мой гнеўны голас адрасаваны не ім. Не! Яшчэ гэтым дзяўчынкам можна паспачуваць. Так мала прайшоўшы па дарозе жыцця, яны пакінулі ўжо на сваім жыццёвым шляху чорную жудасную пляму. Маё сэрца поўнае гневу да тых, хто не ішоў на чыгунку, а сядзеў у “зацішшы”. Яны ператварылі жыццё дзяцей у мучэнне. Менавіта яны, бацькі, штурхалі сваіх нашчадкаў на рабаванне. А адна істота нават дала параду і выправіла дзяцей на чыгунку. Як магла яна, тая, што дала жыццё свайму дзіцятку, паступіць так? Як магла вынесці прысуд сваёй дачушцы, замахнуцца на яе лёс?

***З павагай Зоя КУЧКО.***

МАЛАДЗЕЧНА. Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 10.06 | 17.06 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 90 | **90** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | адсутн. | **адсутн.** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 89,9 | **96** |
| Селядзец салёны | 1 кг | адсутн. | **адсутн.** |
| Рыс | 1 кг | 32,5 | **32,5** |
| Цукар | 1 кг | 27,9 | **27,9** |
| Грэчка | 1 кг | 30 | **28,5** |
| Алей | 1 л | 64 | **70** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 24,6 | **25** |
| Маянэз | 250 г | 20 | **21** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 72 | **72** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 27 | **26** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 25 | **29** |
| Лімоны | 1кг | 65,8 | **60** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 30 | **30** |
| Масла | 1 кг | 80 | **80** |
| Тварог | 1 кг | 25 | **25** |
| Малако | 1 л | 10 | **10** |
| Бульба | вядро | 75 | **40** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 30 | **30** |

СМАРГОНЬ

## Літоўцы мараць пра фільм

У старшыні Гродзенскай абласной арганізацыі літоўцаў “Тэвіне” **Альгіса Дзяргінчуса** ёсць задума. Ён хоча зняць фільм пра Крэўскі замак.

– У аснову дакументальнага фільма “Замак Крэва” будзе пакладзеная гісторыя будаўніцтва, а таксама апавяды пра яго жыхароў, а закончыцца ён матэрыяламі пра раскопкі, – зазначыў карэспандэнту “РГ” Альгіс Дзяргінчус. – Першыя здымкі, напэўна, пачнем на святе каранацыі Міндоўга.

Зазначу, што дазвол на здымкі ўжо ёсць, але з фінансаваннем не ўсё добра. Напэўна, частка касетаў будзе прадавацца.

***Мар’ян ВЯНГРОЎСКІ.***

СМАРГОНЬ

## Герб у рукі

Акрамя разнастайных тавараў, у краме “Гаспадарчыя тавары”, якая належыць ТАА “Ліст”, гандлююць і дзяржаўнымі гербамі.

Праўда, як зазначылі там, апошнім часам попыт на іх знізіўся. У траўні прадалі ўсяго адзін герб. Купляюць іх дзяржаўныя прадпрыемствы, а каб хто–небудзь набыў для сябе, такога не прыпамінаюць.

***Алесь СВІРЧУКОЎ.***

ЯК НАС АБСЛУГОЎВАЮЦЬ

# Kodak–Express: хутка і якасна




***З 1 верасня 1996 года ў Маладзечне працуе сумеснае беларускае брытана–венесуэльскае прадпрыемства “Кодак–Экспрэс” СП “Белая вежа”. Расказвае дырэктар*** Міхаіл КУЛЕШ:

– Пачыналася ўсё з прыёмнага пункта, дзе не было лабараторыі, а праяўка і друк фотакартак рабіліся ў Мінску. Але ўжо ў канцы лістапада 1996 года ў нас з’явілася патрэбная сучасная тэхніка, якая дазваляе праяўляць, друкаваць фота розных фарматаў, рабіць лічбавы друк. Апошні ўключае ў сябе рэтушыраванне, аднаўленне колеру, фотамантаж. Трэба сказаць, што лічбавы друк у нас таннейшы, чым у краінах далёкага замежжа (напрыклад, у Германіі).

У “Кодака” ёсць пастаянныя кліенты – іх каля дваццаці. Але людзі, якія працуюць у гэтай фірме, спадзяюцца, што іх колькасць павялічыцца. Гэтаму спрыяюць даступны кошт паслуг, іх добрая якасць і хуткасць. Прыкладам, фота могуць зрабіць праз адну гадзіну, калі гэта неабходна. “Кодак–Экспрэс” заўсёды рады дапамагчы вам.

P. S. У час фестывалю “Маладзечна–98” фірма будзе працаваць да трох гадзін ночы. Заходзьце (1-ы паверх Дома гандлю).

***Юлія ВАНСЛАЎ.***

ПРАБЛЕМА

# Наркаманы ў росце не спыняюцца

***СМАРГОНЬ. Горад расце і развіваецца. Разам з новымі з’явамі можна назіраць і негатыўныя. Да апошніх адносяцца сітуацыі з наркотыкамі і іх спажыўцамі.***

Напачатку года ў райаддзеле міліцыі створана міжрэгіянальная спецыялізаваная група па незаконным абарачэнні наркотыкаў. Нагадваць лішні раз аб пастаўленых перад ёй задачах няма сэнсу. З мясцовымі наркаманамі ”ваююць” два супрацоўнікі. Узначальвае групу **Віктар Харкевіч**, які ведае многіх мясцовых аматараў ”злавіць кайф” у твар.

Хаця група і лічыцца міжрэгіянальнай, у зону дзейнасці яе ўваходзяць, акрамя Смаргоншчыны, яшчэ і Ашмяншчына з Астравеччынай.

–Тым не менш працуем, у асноўным, на Смаргонь,– гаворыць Віктар.– Развярнуцца не дазваляе адсутнасць аўтамабіля, камп’ютэра, іншай тэхнікі. Працаваць даводзіца практычна на голым энтузіяме, але тым не менш не скардзімся. Сітуацыя не дазваляе.

Ад пачатаку года ўзбуджана столькі крымінальных па фактах захоўвання і збыту макавай саломкі, што ў параўнанні з мінулым годам – гэта ўжо падстава біць у барабан. Больш за тое, афіцыйна зарэгістравалі 10 наркаманаў да 25 гадоў і адна дзяўчыну, якая ўжывала гераін.

Групы звязаныя з правядзеннем аперацый ”Мак” і ”Гераін”. Яны накіраваныя на выяўленне пасеваў маку, а таксама на захоўванне медпрэпаратаў у лячэбных установах, аптэках. Любяць супрацоўнікі міліцыі паназіраць за двума маладзёжнымі дыскатэкамі ў горадзе – ”Аўтамабіліст” і ДК ”Заходняга гарадка”. Заўважана, што моладзь любіць пакурыць і адцягнуцца півам з дымедролам.

Асабліва нагрузкі ў групы прыбавіцца ў летні час, калі наркаманы пачнуць збор маку. Харкевіч ужо цяпер рыхтуецца да сустрэчы гасцей з Расіі, якія і летась часта бывалі на макавых плантацыях.

***Мар’ян ВЯНГРОЎСКІ.***

НАША ГІСТОРЫЯ

# 55 год Саюзу беларускай моладзі

***22 чэрвеня спаўняецца 55 год з дня заснавання Саюза Беларускай моладзі (СБМ), нацыянальна–патрыятычнай арганізацыі, якая існавала на акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі ў часы Другой Сусветнай вайны.***

Гэта была маладзёжная, пераважна вучнёўская, арганізацыя. Ахоплівала яна юнакоў і дзяўчат ва ўзросце ад 14 да 18 год.

16–гадовым юнаком я таксама належаў да СБМ, будучы навучэнцам 3–га курса Маладзечанскай Сярэдняй Гандлёва–Адміністрацыйнай школы.

Уступалі мы ў гэтую арганізацыю добраахвотна, ледзь не ўсім курсам. Добра памятаю, як і чым мы займаліся ў той час. Паколькі арганізацыя была пры школе, то ўсе мерапрыемствы (зборы атрадаў, агульныя сходы, урачыстыя вечарыны) таксама адбываліся ў гэтым будынку.

Але калі набылі адпаведную форму, сталі часам выходзіць на вуліцы горада, шарэнгамі маршыраваць па рыначнай плошчы, спяваць патрыятычныя беларускія песні, такія, напрыклад, як “Мы выйдзем шчыльнымі радамі” і іншыя.

На гэтай жа плошчы вясною 1944 г. прымалі прысягу на вернасць ідэалам беларушчыны і быць гатовым да барацьбы за лепшую долю сваёй Бацькаўшчыны. Карысталіся толькі беларускай нацыянальнай сімволікай.

Я не памятаю якіх–небудзь антысавецкіх або прафашыстоўскіх выступленняў у той час.

Да таго ж, існаваў Статут СБМ, паводле якога асноўны напрамак дзейнасці накіроўваўся на пашырэнне незалежніцкіх і адраджэнцкіх настрояў, на ўзгадаванне сярод тагачаснай беларускай моладзі нацыянальнага патрыятызму.

Аднойчы адбылася сустрэча ў нашым горадзе з сябрамі СБМ з Вілейкі. Яна прайшла арганізавана і цікава, адчуваўся пэўны ўздым пачуццяў.

Магчыма, гэта тлумачыцца тым, што мы ніколі не мелі сваёй нацыянальнай арганізацыі, ні да 1939 г. пры польскім панаванні, ні пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР.

Пэўны ўплыў на развіццё і пашырэнне нацыянальнай свядомасці мела і тагачаснае школьніцтва. Усе прадметы ў нас выкладаліся пераважна на беларускай мове. Добра падавалася гісторыя нашага краю, родная літаратура, геаграфія Беларусі.

Як вядома, пасля вайны амаль усе старэйшыя вучні тагачасных Сярэдніх школ і іх настаўнікі, а таксама сябры СБМ падвергліся з боку камуністычнага рэжыму жорсткім палітычным рэпрэсіям.

І ўсё ж неўміручая ідэя беларушчыны, любоў да сваёй Радзімы, неабыякавасць да лёсу свайго народа засталіся ў нашых сэрцах на ўсё жыццё.

Мне гэта дапамагло ў мастакоўскай творчасці і перажыць цяжкія моманты ў асабістым жыцці.

І сёння, калі Беларусь перажывае складаны перыяд свайго развіцця, патрыятычная загартоўка, набытая ў юнацтве, абавязвае не заставацца на ўзбоччы грамадска–палітычных падзей у краіне.

Таму і 55-гадовы юбілей Саюза Беларускай моладзі, да якога калісьці належаў, успрымаю як наша свята і віншую з ім усіх ветэранаў гэтай арганізацыі, як на Радзіме, так і ў Замежжы.

***Кастусь ХАРАШЭВІЧ, мастак, былы член СБМ.***

